Народная Воля
http://www.nv-online.info
23 ЛІПЕНЯ 2019 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Пэўна, «Чорны квадрат» – Беларусь акурат…

Выступаючы перад удзельнікамі «Славянскага базару», прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка шчыра прызнаўся: «Мне б, як вялікім творчым людзям, разумець гэты «Чорны квадрат» (мелася на ўвазе знакамітая карціна нашага земляка Казіміра Малевіча)…

Ва ўсім спецыяліст на славу,
У Бацькі розных ведаў шмат!
Аднак, наведаўшы выставу,
Не змог асэнсаваць «квадрат».
Ну сэнс які ў таго квадрата?
Па сутнасці – суцэльна цьма.
Падстаў для думак небагата,
А можа, ўвогуле няма.
Як разабрацца – проста дзірка,
Нібыта ноч з акна відна.
І выглядае нават дзіка,
Што ўсе шалеюць ад «акна».
* * *
Калі ты ў чымсьці невучоны,
Калі не ў свой «калгас» залез,
Дык і квадрат не надта чорны,
Дык і культура – цёмны лес…

## Мы цяперака тапельцы, што цялёпкаюцца ў пельцы

Міністэрства фінансаў назвала асноўныя рызыкі для беларускай эканомікі. І галоўная з іх – адносіны з Расіяй.

«Партнёр надзейнейшы – Расія! –
Запэўнівала ўлада нас. –
Расія – гэта моц і сіла,
Расія нафту дасць і газ!»
І мы ў Расію, як у пельку,
Паглыбіліся з галавой,
Бо мецьмем, думалі, капейку,
Рубель прыберажыўшы свой.
Лічылі, што свае тавары
Туды збывацьмем з года ў год.
Аднак няўзнак навіслі хмары –
Расія «разяўляе рот»
І не глядзіць чамусьці ласа,
Не рада нашаму дабру:
То неўспадоб ёй сала-мяса,
То малако не па нутру.
Пры гэтым выставіла ўмовы:
Дык каб усё было як след,
Вы, беларусы, ці гатовы
Аддаць свой суверэнітэт?
І мы цяперака тапельцы,
Прынамсі, лічыць так урад:
Ужо цялёпкаемся ў пельцы
І нельга «асадзіць назад».
Нібы курортнікі на пляжы,
Мы засталіся ў негліжэ.
«Кось-кось», – Расія хціва кажа,
Пасля ў аглоблі запражэ.
* * *
Масты таропка ўлада паліць,
Хаця не перайшла раку…
Мы ў рот паклалі толькі палец,
А нам адкусваюць руку.

## Загаворым як брытанцы – будзем мы навекі ў глянцы

Міністр адукацыі Ігар Карпенка паведаміў, што ў беларускіх ВНУ на палове спецыяльнасцяў плануецца навучанне на англійскай мове.

Амаль што трыццаць год назад
Мы, як калісьці нашы продкі,
Займелі ўсё-ткі свой пасад,
Былі ў той час (на жаль, кароткі)
Спрадвечныя і герб, і сцяг,
І загучала зноўку мова…
Але не выйшлі на прасцяг,
Не нарадзіліся нанова.
І, як гавяду ў чарадзе,
Пагналі нас другою сцежкай.
Яна ў былы загон вядзе,
Дзе самастойнасць – як насмешка.
Паклапаціўся наш пастух,
Наканаваў усім сурова,
Каб панаваў тут рускі дух
І каб была ў нас руская мова.
І вось яшчэ адзін этап:
Пакуль, так мовіць, мы не ў глянцы,
Дык наш пастух жадае, каб
Загаварылі як брытанцы,
Бо цывілізаваны свет
У згодзе з лексіконам гэтым,
І крочыць трэба след у след
За цывілізаваным светам.
Дарэчы, мова англічан
Для нас саміх і нашых дзетак,
Бо люд тутэйшы – не цурбан.
Аднак, баюся, будзе гэтак:
Не запярэчым, пэўна, мы,
Як «зверху» заклік пойдзе ў масы –
Ці нам маўчаць, бы скот нямы,
Ці гаварыць як папуасы…
* * *
Народам рускім пабылі –
І англічанамі пабудзем.
А беларусамі калі
Пабыць удасца нашым людзям?..

ГІСТОРЫЯ ЗДЫМКА

# А пад крыжом тым мой дзядзька Трафім

На пажоўклым фотаздымку ва ўвесь рост, ва ўсёй сваёй юначай красе, у вайсковай форме мой дзядзька Трафім Тарарух, мамін родны брат, першынец маіх дзядулі і бабулі Дзмітрыя Прохаравіча і Агрыпіны Масееўны, гонар усяго майго сялянскага роду, любімец усіх журбінцаў.

Здымак гэты мы збераглі як маглі – спачатку ён быў у бабуліным куфэрачку, потым – у маміным даваенным партфельчыку-сумачцы, а зараз ён у маім сямейным альбоме.

Трафім, якога вы, шаноўныя чытачы, бачыце на здымку, не герой, яго грудзі не ў ардэнах і медалях, ён не стаў сусветнай вядомасцю. Хоць мог мець і высокія ўзнагароды, і знакамітасць. Проста жыццё яго аказалася вельмі кароткім. Як вораг народа ён быў расстраляны ў 1938 годзе.

Колькі сябе помню, у сям'і гэта імя было святым. Пасля вайны засталася як памяць аб ім яго швейная зінгераўская машынка, і мы, дзеці, прасілі бабулю даць пакруціць яе педалі – ужо занадта цікава яна стрыкатала. Бабуля дазваляла. Толькі заўсёды ў яе быў такі сумны твар і слёзы на вачах. Пасталеўшы, мы зразумелі, чаму камянела яе сэрца, ад якой тугі. Тугі па загінуўшым сыне.

Яшчэ да вайны ў вёску Журбін прыйшла з Мінска страшная навіна аб тым, што сын Трафім арыштаваны, асуджаны «без права перапіскі». І далей… невядомасць. Бацькі звярталіся ва ўсе інстанцыі і адказ быў адзіны: «Асуджаны. Справа пераглядацца не будзе». І яшчэ: «Ваш сын памёр ад абсцэсу мозгу на Поўначы».

Тады, у 1937 годзе, калі пасля службы ў арміі ў Мінску Трафім уладкаваўся на працу ў майстэрню НКВД партным, нішто не абвяшчала бяды. Як і яго бацька, меў залатыя рукі. Ён шыў не толькі боты, пашываў прыгожае мужчынскае адзенне. І раптам такое…

Да роднай хаты Трафім ужо ніколі не вярнуўся. Толькі перад самай сваёй смерцю старыя даведаліся, што сын рэабілітаваны, а з сям'і знікла чорная пляма «сям'я ворага народа». Акрамя гэтай звесткі, даведацца што-небудзь іншае было немагчыма.

Мінулі дзесяцігоддзі. Толькі не так даўно ўнук Трафіма (дзядзька рана ажаніўся) Алег Пятровіч Тарарух праз беларускі «Мемарыял» атрымаў пра дзеда некаторыя звесткі. Арыштаваны ён быў за «шпіянаж на карысць Польшчы» 21 верасня 1937 года, расстраляны 31 студзеня 1938 года, рэабілітаваны 12 мая 1960 года. Апошнія дні яго жыцця звязаны з Мінскам. Цяпер у нас, яго родных, няма сумненняў: Трафім – у Курапатах. Шкада, што бацькі не даведаліся, дзе сына спасцігла смерць. А то ўсе чакалі і чакалі…

Кожны раз, бываючы ў царкве падчас памінальных службаў па памерлых родзічах, падаючы запісачку з імёнамі сваіх блізкіх, супраць слова «Трафім» дабаўляю «убиенный». Так патрабуюць царкоўныя каноны. І так крыўдна становіцца на душы: за што і кім «убиенный»? Крыўдна, вядома ж, на тую дзяржаву, што дазваляла рабіць такое. І я ціхенька малюся Усявышняму, каб такое ніколі не паўтарылася.

Нядаўна ў «Народнай Волі» была змешчана інфармацыя Алеся Святланіча аб тым, што адкрылася выстава «Курапаты. Дзяды-1989…». Тэкст суправаджаўся здымкам «Усталяванне Крыжа Пакуты». Ад гэтай падзеі 30-гадовай даўнасці зноў здрыганулася маё сэрца. Падумалася: пад гэтым Крыжом Памяці ляжыць і мой родны чалавек – дзядзька Трафім Дзмітрыевіч Тарарух.

…А праваабаронцам і Цэнтру грамадзянскай супольнасці трэба толькі падзякаваць за адкрыццё такой выставы. Пажадана, каб яе як мага больш наведала людзей, асабліва моладзі.

Памяць людская аб продках бясцэнная. Трэба і надалей рабіць усё магчымае, каб яна не знікала. Трэба помніць усіх палеглых на полі брані і тых, хто загінуў па чыёйсьці злой волі зусім бязвінна.

**Ларыса КАНАПЛЁВА.**

МАЛАЯ РАДЗІМА

# Літстаронкі ў газеце. Чытачы заўжды прывецяць

*Роздум пісьменніка*

Калі пачыналі мы, сённяшнія шасцідзесяцігадовыя, тады яшчэ выходзілі газеты «Піянер Беларусі» і «Чырвоная змена», якія ахвотна прадстаўлялі сваю плошчу пад творы пачаткоўцаў. Але яны ўжо спынілі сваё існаванне, а пра малатыражны часопіс «Бярозка» не ўсе сёння і ведаюць (ды і колькі твораў ён можа змясціць на ўсю краіну!).

Тым не менш заўсёды (нават у наш час) лепшай пляцоўкай для старту на літаратурны Парнас для цяпер ужо вядомых сучасных пісьменнікаў заўсёды была раённая газета. На яе старонках змяшчаліся няхай сабе яшчэ і недасканалыя творы, але першыя публікацыі, як правіла, натхнялі пачаткоўцаў, надавалі далейшы імпульс іх творчасці. Пры многіх рэдакцыях існавалі літаратурныя аб'яднанні, вакол якіх групавалася і таленавітая моладзь, і творчыя людзі самых розных прафесій і ўзростаў, якія імкнуліся мастацкім словам выказаць свае думкі і пачуцці. Штомесячна выходзілі літаратурныя старонкі, змяшчаліся асобныя падборкі вершаў, рабіліся агляды літаратурнай пошты.

Памятаю, як я, будучы школьнікам, чакаў такіх нумароў раённай газеты. Чытаў і перачытваў змешчаныя ў ёй творы. Радаваўся нават тады, калі мае вершы траплялі ўсяго толькі ў агляд, бо аглядальнік указваў на агрэхі, і гэта была завочная вучоба, своеасаблівы мясцовы літінстытут. А колькі было радасці бачыць іх надрукаванымі! Тыя старанна збіраемыя мной літаратурныя старонкі і па сёння захоўваюцца ў бацькоўскай хаце на маёй малой радзіме – у вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна.

А як не ўспомніць добрым словам тагачаснага намесніка рэдактара нашай раённай газеты «Авангард» Уладзіміра Сцяпанавіча Хмяльніцкага, які па-бацькоўску апекаваўся літаратурнымі талентамі Будакашалёўшчыны?! З якім непрыхаваным болем казаў ён пра тое, што вось мы, школьнікі, паз'язджаем вучыцца ў гарады, будзем друкавацца ў салідных літаратурных выданнях, выпускаць кнігі і забудзем на сваю раёнку. Маўляў, хоць бы які вершдругі даслалі!

Гэтыя яго словы настолькі запалі мне ў душу, што я і па сёння не парываю сувязі з будакашалёўскім «Авангардам», прапаную яму свае новыя вершы. У 2017–2018 гадах спецыяльна зрабіў для газеты і палосныя інтэрв'ю з пісьменнікамі-землякамі Міколам Чарняўскім, Таццянай Атрошанка і Таццянай Прышчэпавай, пазнаёміўшы такім чынам чытачоў з тымі творцамі, якія некалі таксама хадзілі па гэтай зямлі. З Міколам Чарняўскім (дарэчы, маім літаратурным настаўнікам, а сёння ён ужо не першы год гэтак жа апякуецца юнай паэткай Катрын Ніцыеўскай з яго роднай вёскі Буда Люшаўская) мы склалі і дзякуючы фінансавай падтрымцы мясцовых улад выдалі анталогію «Будакашалёўшчына літаратурная». У краіне ж, на жаль, такія анталогіі выдаюцца пераважна па тых раёнах, дзе святкуецца Дзень беларускага пісьменства. А чаму б не паруліцца кожнаму раёну і не выдаць падобныя анталогіі, як калісь выдавалі кнігі «Памяць»? Няхай бы раёны займелі і своеасаблівую літаратурную «Памяць», дзе былі б змешчаны творы і вядомых пісьменнікаў-землякоў, і пачаткоўцаў – тых, хто толькі спрабуе свае сілы ў літаратуры.

Для гэтага, безумоўна, трэба адшукваць такіх самародкаў, прадстаўляць газетную плошчу для іх творчасці, актыўна прыцягваць для працы з юнымі (і не толькі) талентамі пісьменнікаў-землякоў. Думаю, апошнія ахвотна б пайшлі насустрач, бо ўсе мы зацікаўлены, каб не перасыхалі жыватворныя крыніцы на нашай малой радзіме. Актывізацыі літаратурнага жыцця ў раёнах і адлюстраванню яго на старонках мясцовай прэсы, адначасова знаёмячы чытачоў і з новымі кнігамі вядомых пісьменнікаў-землякоў, у значнай ступені магло б паспрыяць і ўключэнне Міністэрствам інфармацыі ўжо з 2020 года ў Нацыянальны конкурс друкаваных СМІ «Залатая Ліцера» новай намінацыі «Лепшая літаратурная старонка».

Памятаю, як напярэдадні майго 50-гадовага юбілею тагачасны старшыня Буда-Кашалёўскага райвыканкама Мікалай Чарныш прапанаваў правесці святкаванне гэтай знакавай для мяне падзеі ў раённым Доме культуры. Я напачатку аднекваўся: маўляў, навошта ўся гэтая шуміха? «Табе, можа, і не трэба, – парыраваў ён. – Але гэта трэба нам, тым хто ўступае ў самастойнае жыццё. Няхай пабачаць, што і наша будакашалёўская зямля не бясплодная».

Зрэшты, мясцовая ўлада ведае сваіх пісьменнікаў і шануе іх: у раёне праводзяцца прэзентацыі нашых кніг, наладжваюцца сустрэчы з чытачамі-землякамі (і не толькі ў горадзе, а і ў вясковых школах і Дамах культуры), літаратурныя вечарыны. На кожным з гэтых мерапрыемстваў, як правіла, прысутнічала да нядаўняга часу старшыня раённага савета дэпутатаў Алена Алексіна (цяпер – старшыня Гомельскага райвыканкама). Тром пісьменнікам – Міколу Чарняўскаму, мне і Валерыю Калінічэнку, які цяпер жыве ў Падмаскоўі, нададзена званне «Ганаровы грамадзянін Буда-Кашалёўскага раёна». Апошні, дарэчы, да пераезду на новае месца жыхарства ўзначальваў калектыў рэдакцыі газеты «Авангард». Акрамя яго, пісаў вершы і яшчэ адзін рэдактар, цяпер член Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Болсун. Самі паэты, яны рупіліся, каб на старонках газеты прысутнічала і паэзія яе таленавітых чытачоў. У розныя часы ў рэдакцыі працавалі таксама вядомы сёння празаік Анатоль Казлоў і маладзейшы, але таксама ўжо член СПБ, аўтар дзвюх кніг прозы Андрэй Сідарэйка.

Не-не ды і задумваюся: а ці змаглі б многія з вядомых сёння пісьменнікаў выйсці на шырокі літаратурны прасцяг, каб не падтрымка на яго пачатку з боку раённых газет, якія побач з сур'ёзнымі журналісцкімі матэрыяламі шчодра прадстаўлялі свае старонкі і для іх творчасці. Няма сумнення, што мастацкае слова і сёння магло б упрыгожыць мясцовую прэсу. І я глыбока перакананы, што чытачы толькі б віталі падобныя публікацыі.

У якасці доказу прывяду такі прыклад: калі я быў галоўным рэдактарам мінскай гарадской газеты «Добры вечар», мы запусцілі сярод чытачоў анкету з мэтай высветліць, якія рубрыкі і тэматычныя старонкі ім найбольш даспадобы. Дык вось па выніках таго анкетавання з некалькіх дзясяткаў рубрык і падобных старонак літаратурная ўвайшла ў пяцёрку найбольш называемых (а значыць, і чытаемых). Калі рэдакцыі раённых газет паспрабуюць зрабіць гэта ў сябе, то, думаю, яны самі пераканаюцца ў гэтым.

**Анатоль ЗЭКАЎ.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК.

### Не могуць адрамантаваць ноўтбук

*Аддаў ноўтбук у гарантыйную майстэрню, але ніяк не могуць адрамантаваць. Больш за месяц тэхніку не вяртаюць. Кажуць, што нейкія запчасткі чакаюць… Ці можна наогул адмовіцца ад пакупкі?*

**Сяргей ХОМІЧ, Гродна.**

– Звярніцеся з прэтэнзіяй у магазін, дзе набывалі тэхніку, і вам вернуць грошы.

### Атрымаць кампенсацыю

*Вырашыў адрамантаваць кухню. Заключыў дамову з адной фірмай, усе паперы афармілі неабходным чынам. Але рамонт кухні рабочыя закончылі не ў тэрмін. Можна запатрабаваць кампенсацыю?*

**Аляксандр СВЯТЛОЎ, г.Жодзіна.**

**– Можаце ў судовым парадку запатрабаваць кампенсацыю маральнага ўрону, калі фірма не захоча нейкім іншым чынам «разруліць» сітуацыю.**

### Памяняць кававарку

*Ці можна замяніць кававарку, якая перастала працаваць, калі купляла яе ў растэрміноўку месяц таму?*

**Валянціна КІСЕЛЬ, Гомель.**

– Можаце. Пішыце ў магазін заяву аб адмове ад рамонту і патрабуйце замяніць кававарку на новую. Тое, што пакупка была зроблена ў растэрміноўку, значэння не мае.

### Джынсы з дэфектамі

*Набыла джынсы ў магазіне. Дома высветлілася, што яны дрэнна прашытыя, пасля мыцця ў пральнай машыне змянілі колер. Чэк захаваўся. Ці можна вярнуць тавар?*

**Ганна ПРОТАС, г.Лепель.**

– Можаце. Калі магазін адмовіцца прымаць тавар, напішыце пісьмовую прэтэнзію.

### Вярнуць абанемент на тэніс

*Муж на гадавіну нашага вяселля падарыў мне абанемент на тэніс. Прыемна, безумоўна, але заняткі тэнісам мяне ніколі не вабілі, хаця неяк я і абмовілася, што можна было б паспрабаваць гуляць. Ці можна вярнуць абанемент назад?*

**Марына ЯРМАК, Мінск.**

– Так, гэта права спажыўца.

### У планшэце западаюць кнопкі

*Набылі планшэт, ніякіх прэтэнзій па рабоце няма. Але з'явілася праблема – сталі западаць кнопкі, якія рэгулююць гук. Ці можна замяніць планшэт альбо патрэбна экспертыза тавару?*

**Андрэй ГУЛЕВІЧ, г.Вілейка.**

– Па заяве вы можаце адмовіцца ад рамонту і патрабаваць замены тавару. Але не выключана, што трэба будзе рабіць экспертызу.

РЕПЛИКА

# Кому это выгодно?

Хмель шумит – ум молчит. Согласен с автором недавней публикации в «Народной Воле»: пьяный за рулем – враг! Но источник зла очевиден. Есть много сопутствующих моментов, способствующих тому, что белорусы много пьют. Зайдите в любой продовольственный магазин. Первое, что есть на входе, – стеллажи с алкоголем. Даже непьющие не проходят мимо, не говоря о тех, кто за этим «добром» пришел. Никто не пытается убрать в дальний угол. И второй момент. Производить алкоголь нужно из качественного спирта, на худой конец с полугнилых яблок (как было при СССР) – а не ту бормотуху, что «сносит бошку». Но раз государству так выгоднее – таков и результат. Бороться с ветряными мельницами можно сколь угодно долго.

**С.СЕРГЕЕВ.**

*Минск.*

ПАМЯТНОЕ

# …И смотрели они на бюргера, воткнувшего вилы в пасть хищного волка

О процедуре Акта о безоговорочной капитуляции фашистской Германии написано немало. Но я прошу читателей совершить вместе со мной путешествие во времени – из победного 1945-го в 1966 год. Именно тогда мне, молодому журналисту, по воле судьбы оказавшегося в газете «Советская Армия», издававшейся для группы советских войск в Германии, было дано редакционное задание подготовить репортаж из Карлсхорста, где в 1945-м была поставлена последняя точка под гитлеровской авантюрой.

С той командировки в Карлсхорст мне особенно запомнились два эпизода, о которых рассказал директор музея. Вот первый из них.

Накануне исторического акта, свору, представляющую побежденную Германию во главе с генералом Кейтелем, привезли в Карлсхорст заранее и в тесной прихожей, где по замыслу начштаба I Белорусского фронта, нашего земляка генерала Соколовского, была установлена скульптурная группа «Волк на псарне». Она изображала мужчину-бюргера, воткнувшего вилы в пасть хищному волку, попавшему в западню. Эту скульптуру генерал Соколовский увидел где-то на фермерском подворье и решил использовать ее с историческим умыслом. Ведь около двух часов, пока съезжались в Карлсхорст представители всех стран-союзниц США, Англии, Франции и СССР – группа Кейтеля лицезрела скульптуру, теперь уже изображающую их судьбу, судьбу хищницы – агрессора Германии, позарившейся на чужое добро. Кейтелю и Ко было о чем подумать. А потом их преступная участь решится на Нюрбергском судебном процессе.

А второй эпизод, о котором мне рассказал директор музея, это участь скатерти темно-зеленого цвета, покрывавшей стол, за которым сидели подписанты Акта. По окончании торжественной процедуры она была в клочья разорвана журналистами на сувениры.

**Вячеслав ВОЛЬСКИЙ,**
**член Союза белорусских писателей.**

НА СВЯЗИ – КИЕВ

# «Мы их сделали!»

## *Украина выбрала Верховную Раду*

21 июля граждане Украины пришли на избирательные участки, чтобы выбрать тех, кто будет писать для них законы в течение ближайших лет. Окружение президента Владимира Зеленского не скрывало: они рассматривают это голосование как третий тур президентских выборов. Фактический результат это подтвердил. Партия Зеленского «Слуга народа» набрала, по предварительным данным, 42,6 % голосов по списку и победила в большинстве одномандатных округов (напомним, что в Украине действует смешанная система выборов: голосуют и за партии, и за кандидатов-мажоритарщиков). Таким образом, «слуги народа» получают 251 мандат. Для формирования правительства необходимо 226. Лозунг Зеленского «Сделаем их еще раз!» сработал. Старые политические элиты Украины почувствовали, что их действительно «сделали».




И это – при низкой (менее 50 %) явки. Принято считать, что в таких случаях больше всего голосуют пенсионеры. Вот, они проголосовали. Получите, господа профессиональные политики!

### Кто все эти люди?

Типичный кандидат от «Слуги народа» – молодой (до 35 лет), не имеющий опыта работы в государственных органах, не баллотировавшийся в депутаты, не занимавшийся политикой или общественной деятельностью, не проживающий на территории своего округа (если речь касается одномандатников) и… – и имеющий в бюллетене для голосования запись «временно не работающий». Некоторое число мест, разумеется, получили сотрудники шоу-бизнеса, еще немного – журналисты и IT-специалисты. Избиратели голосовали не за персону, добившуюся успеха, доказавшую избирателям конкретного округа свою готовность к управлению государством, а за зеленый цвет, которым были маркированы листовки и палатки «Зе!кандидатов». Голосовали действительно за Зеленского.

Как такой парламент будет формировать правительство? Нормально. Глаза Владимира Зеленского – и возможного будущего спикера Верховной Рады 35-летнего Дмитрия Разумкова – светятся радостью и оптимизмом. Они не сомневаются, что им удастся создать «правительство мечты». Голосов для этого у них явно хватит. Однако Зеленский уже декларировал свою готовность пригласить в коалицию преодолевшую 5-процентный барьер партию фронтмена группы «Океан Ельзи» Святослава Вакарчука «Голос».

### «Голос» Сороса?

«Голос» Вакарчука замыкает список победителей – он набрал чуть больше 6% голосов избирателей. Однако у этой партии, «слепленной» буквально накануне выборов, очень хорошая репутация. Политическая сила Вакарчука, за которой, по слухам, стоят вполне проевропейский олигарх (и зять второго президента Украины Леонида Кучмы) Виктор Пинчук и международный финансист и филантроп Джордж Сорос, считается партией демократической, рыночной, умеренно национально ориентированной и также проевропейской. Поэтому предложение Зеленского вовсе не означает, что он готов уступить коллеге по шоу-бизнесу портфель премьер-министра или главы Верховной Рады (два шоумена во главе страны – оно слегка зашкаливает даже для Украины, а уж западные партнеры и вовсе начнут в затылках чесать). Скорее это знаковый ход, поскольку вопрос о том, who is Mr. Zelensky, с повестки дня не снят. А союз с Вакарчуком позволяет его по крайней мере не заострять.

При этом Зеленский озвучил свой подход: будущий премьер-министр не должен иметь опыта работы в правительстве и сотрудничества с олигархами. Кого, кроме Вакарчука, он мог иметь в виду, пока непонятно.

### В борьбе за статус оппозиционера

Будущей правящей коалиции будет противостоять оппозиция. Состоять она будет из двух флангов.

Проевропейский фланг возглавляет экс-президент Петр Порошенко, лидер партии «Европейская солидарность», также прошедшей в Раду. Петр Алексеевич заявил, что главным партнером в Раде его партия видит «Голос» Вакарчука, но сам Вакарчук голос в ответ пока не подал.

Порошенко явно придется нелегко. С одной стороны, он вынужден продолжать играть роль респектабельного политика, оставившего серьезный след в истории Украины (что правда: именно Порошенко добился для украинцев безвизового статуса в Европейском Союзе). Но все видели, как таяла его поддержка у избирателя, пока не свелась к 8,4% на парламентских выборах. А его преемник на посту президента Владимир Зеленский еще и усугубил двусмысленность его положения, публично предложив подвергнуть люстрации всю политическую элиту времен Порошенко. Против самого же Порошенко возбуждено несколько уголовных дел – преимущественно по требованию бывших соратников Виктора Януковича. И чем завершится эта печальная история, пока непонятно.

Но у оппозиции есть и другой фланг – пророссийский. Его возглавляет кум президента России Виктор Медведчук, демонизированный политик, считающийся чуть ли не главой «пятой колонны». Его «Оппозиционная платформа За жизнь» стала серебряным призером выборов 21 июля, получил только по списочному составу 13,04% голосов – и это не считая мажоритарных округов. Поскольку бороться со «Слугой народа» было бессмысленно, демократические партии боролись с Медведчуком, что ему не помешало, а им не помогло. В результате Медведчук объявил о том, что переходит в оппозицию к Зеленскому, а также что будет настаивать на принятии закона об оппозиции.

«Бессмертная» Юлия Тимошенко в Верховную Раду также прошла – с 8%, что больше, чем на парламентских выборах 2014 года. Но все уже понимают, что ее время в украинской политике закончено. Она остается ярким медийным персонажем, но не более.

### Что теперь?

А вот на этот вопрос никто ответить не может. Украина вошла, как говорится, в период турбулентности, знакомый всем, кто летал самолетами. Чем завершится этот полет, пока неизвестно. Пилоты утверждают, что «полет нормальный». Будем надеяться.

**Александр ФЕДУТА.**
*Киев.*

ЭВРИКА!

# Индия запустила на Луну ракету с орбитальной станцией и луноходом

Ракета-носитель стартовала с космодрома на острове Шрихарикота 22 июля.

«Чандраян-2» преодолеет 384 тысячи километров и достигнет Луны более чем через пять недель. 640-тонная ракета доставит на Луну космический аппарат, состоящий из трех частей: это орбитальная станция, спускаемый аппарат и 27-килограммовый шестиколесный ровер с приборами для анализа почвы. Миссия оценивается в 150 миллионов долларов. Аппарат впервые совершит посадку на малоизученном южном полюсе Луны.

В ISRO рассчитывают, что посадка произойдет 6 или 7 сентября. Как указывает The New York Times, это станет самым сложным этапом миссии – в апреле при похожей операции разбился первый лунный аппарат Израиля.

В рамках миссии «Чандраян-2» на Луне будут искать воду и минералы, а также исследовать толчки под поверхностью. Орбитальный аппарат в течение года будет фотографировать поверхность Луны и анализировать ее тонкую атмосферу. Луноход на солнечных батареях, как ожидается, будет работать в течение 14 дней: за это время он преодолеет до полукилометра и отправит на Землю полученные данные и изображения.

Изначально Индия рассчитывала, что запустит «Чандраян-2» к Луне в 2013 году, причем вместе с Россией. Но из-за провала российской миссии «Фобос-Грунт» власти Индии решили осуществить миссию самостоятельно. В случае успеха Индия станет четвертой страной после России, США и Китая, чьи аппараты совершали посадку на Луну. В 2008 году Индия уже направляла к Луне космический зонд в рамках своей первой лунной миссии «Чандраян-1», но тогда космический аппарат не садился на поверхность.

Запуск «Чандраян-2» совпал с 50-летием высадки астронавтов США на поверхность Луны 20 июля 1969 года. Власти Индии назвали это случайным стечением обстоятельств.

НУ И НУ!

# В Париже ограбили принца Венеции

У единственного наследника главы королевского дома Савой украли драгоценностей на полмиллиона евро


EPA/UPG

Вслед за **саудовской принцессой, которую обокрали в одном из парижских отелей прошлой осенью,** жертвой грабителей во французской столице стал единственный наследник главы королевского дома Савой.

Как пишет Le Parisien, итальянский принц Венеции Эммануил-Филиберт Савойский сообщил в полицию Парижа о пропаже из его квартиры большого количества ювелирных изделий. Причем он считает, что воры были осведомлены о принадлежащих ему драгоценностях, поскольку, по словам принца, взяли «самую дорогую бижутерию».

В целом сумма украденного оценивается в полмиллиона евро.

Ограбление случилось 19 июля, когда ни принца, ни его супруги, французской актрисы Клотильды Куро, не было в квартире.

Парижская бригада по борьбе с бандитизмом приступила к расследованию преступления.

ТУМАННЫЙ АЛЬБИОН

# Кто победит?

Сегодня, 23 июля, Консервативная партия Британии должна назвать имя своего нового лидера, который займет пост премьер-министра страны. Это будет либо Александер Борис де Пфеффель Джонсон, либо Джереми Ричард Стрейншем Хант.

Оба – выходцы из старой элиты. Хант – сын адмирала. Джонсон – родственник королевы Елизаветы в десятом колене.

Впрочем, все эти факты забавны, но вообще в современной Британии уже не важно, течет ли в политике королевская или хотя бы дворянская кровь, и были ли у него знаменитые предки в XVII веке.

В новой истории Британии уже были премьер – сын плотника Эдвард Хит и премьер – дочь лавочника Маргарет Тэтчер, и еще несколько премьер-министров, по своему происхождению и близко не стоявших к высшим сословиям. Включая дочь простого священника Терезу Мэй.

КАЛЕЙДОСКОП

# Заключенные в узбекских тюрьмах будут уходить в отпуска

*Заключенные в Узбекистане получили ряд новых прав, в том числе право на зарплату, отпуск, психологическую помощь и занятия на свежем воздухе. Это следует из новых правил внутреннего распорядка учреждений по исполнению наказания в виде лишения свободы Министерства внутренних дел.*

Дополнения в правила прошли регистрацию в Министерстве юстиции 1 июля. Согласно изменениям, занятия на свежем воздухе предусмотрены для заключенных в свободное от работы время, если позволяет погода. Кроме того, заключенным предоставили право получать зарплату, уходить в отпуск, а также право на безопасные условия труда и отдых.

Теперь в случае тяжелого заболевания осужденному разрешается дополнительное общение по телефону, а также дополнительное свидание по указанию врача.

В Минюсте Узбекистана уточнили периодичность проведения медицинского освидетельствования осужденных. Теперь медобследование должно проводиться не реже одного раза каждые полгода, помимо случаев, когда заключенный сам обращается к врачу.

По данным Главного управления исполнения наказаний (ГУИН) МВД Узбекистана, к концу 2018 года количество заключенных в стране сократилось более чем на 10% по сравнению с 2017 годом, что в ГУИН связали со снижением общего уровня преступности. Теперь на 100 тысяч граждан приходится в среднем 140 заключенных, причем каждый 30-й заключенный – женщина.

Агентство УзА опубликовало 1 июля репортаж из женской колонии в Зангиатинском районе Ташкентской области, где под председательством заместителя председателя Верховного суда Холмумина Ядгарова было устроено судебное заседание. Были освобождены шесть женщин, осужденных за торговлю наркотиками. Остальным заключенным было велено слушать выступления президента страны Шавката Мирзиеева.

«Вы хоть слушали выступление президента?» – обратилась к залу, где собрали женщин-заключенных, заместитель премьер-министра, председатель Комитета женщин Узбекистана Эльмира Баситханова. Большинство ответило отрицательно. Баситханова заявила, что все должны прослушать выступление главы государства.

В 2018 году в Узбекистане были осуждены 35.706 человек, из них 8730 были лишены свободы, 2074 осуждены условно, 24.902 гражданам назначены другие виды наказаний.

ФАКТ

# Папа Римский направил письмо Асаду

Понтифик выразил глубокую озабоченность гуманитарной ситуацией в Сирии, прежде всего в Идлибе.

«Папа Франциск вновь обращается с призывом защитить жизнь гражданских лиц и сохранить такие основные объекты инфраструктуры, как школы, больницы и медицинские учреждения. То, что происходит, действительно бесчеловечно, и с этим нельзя согласиться», – отметил государственный секретарь Ватикана кардинал Пьетро Паролин.

По словам Паролина, в своем письме Папа Римский просит президента Асада предпринять конкретные шаги, направленные на примирение. Так, он предлагает озаботиться условиями возвращения на родину беженцев, которые ранее были вынуждены покинуть страну. Кроме того, Папа Франциск затрагивает тему освобождения заключенных и допуска их родственников к информации о своих близких.

О РОССИИ

# Опасная пропасть

«Железный канцлер» Отто фон Бисмарк был посланником Пруссии в России с 1859-го по 1862 год, выучил русский язык и старался понять Россию и загадочную русскую душу. Он предупреждал: «Россия опасна мизерностью своих потребностей». Как не раз доказано историей, люди в России обладают удивительной стойкостью и способностью к выживанию в любых самых невыносимых для других народов условиях.

Опасность – не в снижении уровня жизни, что вполне переносимо, а в быстро растущей пропасти между бедными и богатыми. Экономика России признана самой несправедливой в мире, говорится в недавнем докладе World Wealth Report. Его авторы подсчитали, что 62 процента богатств России контролируются долларовыми миллионерами, еще 26 процентов сосредоточены в руках долларовых миллиардеров.

Всего же в России насчитывается порядка 120 тысяч долларовых миллионеров и 77 долларовых миллиардеров, которые владеют 88 процентов всех национальных богатств страны. Нарочито демонстрируемая роскошь на фоне беднеющих масс усиливает потребность в социальной справедливости.

Правительство России идет по пути наименьшего сопротивления и решает проблемы бюджетного дефицита отнюдь не за счет богатых, а залезает в карманы пенсионеров, малоимущих и предпринимателей. В ближайших планах новой Госдумы – повышение налогов и пенсионного возраста, сокращение социальных расходов, либерализация рынка труда…

Вдобавок к этому нарастающий вал новых запретов, ограничений и поборов может сильно озлобить население.

*(«Русская мысль».)*

ПРИНЦИПИАЛЬНАЯ ПОЗИЦИЯ

# Брестская крепость: герои не могут быть «неизвестно пропавшими»

Легендарная оборона Брестской крепости – одна из самых драматичных и ярких страниц летописи Великой Отечественной войны. В сознании народа, в его исторической памяти героическая оборона крепости на пограничном Буге запечатлелась как начало самой страшной в истории Отечества войны.

Оборонять крепость не планировалось, располагая значительным казарменным фондом, она использовалась для размещения частей Красной Армии. Когда на рассвете 22 июня 1941 года на нее обрушился шквал огня, ураган сметающего все артиллерийского налета, бойцы и младшие командиры, оказавшиеся в казармах, без приказа принимали решение об обороне. Они мужественно вступили в бой с жестоким врагом, на стороне которого был многократный перевес сил и внезапность нападения, и целый месяц защищали крепость. Мужественный руководитель одного из участков обороны Брестской крепости – Восточного форта – майор П.М.Гаврилов был пленен лишь на 32-й день войны.

Многие защитники крепости погибли в неравном сражении, многие попали в плен, откуда вернулись не все…

В Бресте создан величественный Мемориал – памятник героям обороны. На широкую площадь Церемониалов ярусами спускаются длинные ряды плит над могилами героев. Здесь покоятся обнаруженные и перезахороненные в разные годы после войны останки 1038 защитников крепости. Немцы, заняв крепость, закопали руками военнопленных тела красноармейцев в воронках артиллерийских снарядов (снаряды 600-миллиметрового калибра установки «Карл», обстреливавшей крепость, образовывали воронки диаметром в два десятка метров). Одно из последних перезахоронений защитников крепости связано с обнаружением такой воронки в 2011 году. Ее место вычислили энтузиасты благодаря опубликованным в настоящее время фотографиям, сделанным солдатами немецкой дивизии, штурмовавшей Брест. Военнослужащие 52-го поискового спецбатальона ВС Беларуси подняли из этой воронки останки 58-ми красноармейцев. Они были торжественно перезахоронены в некрополе Мемориала и им были отданы последние почести.

Из 58-ми удалось установить только три имени: Григория Зинченко, Александра Таглина и Дениса Пахаренко. Удивительное обстоятельство связано с именем ефрейтора А.Таглина. Оказывается, оно уже было выбито на одной из плит при создании Мемориала в 1971 году. Тогда это сделали со слов сослуживцев, сообщивших, что ефрейтор погиб при обороне крепости.

На плитах некрополя всего высечено 277 известных имен, а на многих плитах начертано – «Неизвестный». Таких здесь 761. В Бресте – они неизвестные, а в официальных документах это так называемые «пропавшие без вести». Их имена затерялись среди миллионов записей в интернет-базах – в ОБД «Мемориал», на сайтах «Подвиг народа» и «Память народа», – в печатных и электронных книгах-памяти. Когда-то в первые послевоенные годы их матери, жены заполнили на каждого не вернувшегося с войны, о ком не было известий, военкоматовскую анкету, а военком начертал резолюцию: «Считать без вести пропавшим» и назначил условную дату, когда пропал… Так они бедные и числятся десятки лет не погибшими на войне, не павшими в боях за Отечество, а исчезнувшими невесть куда…

Широко известно утверждение – война не закончится, пока не захоронен последний солдат. Задача эта неспешно, но решается. Поисковые отряды нашли в местах боев и перезахоронили десятки тысяч красноармейцев. Очевидно, что им хватит работы еще на годы. А другая проблема, созданная войной, вовсе не решается. Миллионы бойцов и командиров РККА, записанных в число пропавших без вести, остаются в таком «статусе» многие десятилетия. В картотеках Центрального архива Министерства обороны число пропавших без вести военнослужащих превышает 7 млн человек. В том числе неизвестны имена 6 млн бойцов, лежащих в зарегистрированных братских могилах!

Идея официального признания пропавших без вести погибшими в Великой Отечественной войне не один раз поднималась ветеранами, общественностью. Нужно надеяться, что к грядущему 75-летию Победы высшие государственные органы смогут ее решить. Но к ее решению возможны и частные подходы.




Энтузиасты-исследователи истории обороны Брестской крепости ведут большую работу по выявлению имен защитников крепости. Этой работе способствует раскрытие архивов, засекреченных в советское время, публикация документов военного периода, в том числе, что особенно важно, размещение их в открытом доступе в интернете. Но, с другой стороны, эта работа исключительно осложнена гибелью во время штурма и обороны крепости штабных документов войсковых частей, дислоцировавшихся в ней. Исследователи годами по крупицам собирают из различных не прямых, косвенных источников данные, позволяющие воссоздать списки личного состава полков, отдельных батальонов, батарей, размещавшихся в крепости. Выясняют про каждого персонально, кто из воинов в ночь на начало войны был в своей части и, вернее всего, утром принял бой с врагом, кто из них выжил, кто погиб, кто попал в плен. Результатом являются аннотированные, часто довольно подробно, именные списки защитников Брестской крепости, содержащие многие сотни имен.

Но эти результаты не признаются, игнорируются теми, кому, собственно, официально поручено вести такую работу – Музеем обороны Брестской крепости (он входит в состав Мемориального комплекса «Брестская крепость – герой»). Музей отказывается признать важную, современную реалию – существование самодеятельных исследователей и их плодотворную результативную деятельность. И вместо того, чтобы объединить их усилия, координировать действия всех энтузиастов и выйти на единый общий результат изысканий, ограничивает свою «научную работу» ведением так называемых «личных дел» участников обороны, заведенных еще в далекие советские времена. У Музея своя бухгалтерия. Он действует по правилам, установленным в годы, когда еще были живы известные участники обороны. Только по их свидетельствам, заверенным военкомами *своего* региона (?!), воины утверждались в статусе защитников крепости. Зачастую такие «свидетельства» появлялись по просьбам родственников не вернувшегося с войны военнослужащего к здравствующим участникам обороны, которые утверждаемого даже не знали, служили с ним в разных полках…

Количественно списки, созданные энтузиастами, и те, которыми оперирует Музей, разнятся в разы. Исследователь Юрий Фомин (г.Брянск) сформировал нам, сделав выборку из накопленных им за годы исследований материалов, список вологжан – защитников Брестской крепости. Он включает 45 персоналий. А «научно-методическим советом мемориала (цитирую письмо из Музея. – **В.П.**) утверждены участниками обороны крепости 10 уроженцев Вологодской области». Это те, на кого успели получить «свидетельства» и заверить у военкомов. Никого по результатам современных объективных и достоверных исследований, но выполняемых неофициально, на самодеятельной основе, Музей в этот список не включает. Безоговорочное табу – данные ЦАМО о включении бойца в число пропавших без вести, т.е. та самая резолюция военкома далеких 1940-х годов на анкете родственников.

Показателен пример из нашей недавней переписки с Музеем с обсуждением информации об участнике войны Александре Александровиче Большакове, уроженце деревни Сергеевское Усть-Кубинского района Вологодской области. Изыскания позволяют заключить, что этот боец в ночь на 22 июня был в крепости. В частности, это следует из места и характера его службы, о которых известно из анкеты, заполненной после войны женой. Там был его адрес по довоенной переписке: г. Брест, п/я 32, литер «И». Это адрес 33-го отдельного инженерного полка, размещавшегося в центральной части крепости – Цитадели. А литер «И» соответствует хозяйственному взводу (боец был ездовым в хозвзводе). Далее, официально А.А.Большаков считается пропавшим без вести с условной датой и отсутствует информация о нахождении его в плену. Соответственно делается единственно возможный вывод – он погиб при обороне крепости.

Более того, имеется и свидетельство! Оставленное его другом, земляком и однополчанином – известным защитником крепости – А.А.Скороходовым (тот прошел плен, нацистские лагеря и стал героем Чехословацкого сопротивления, командиром партизанского отряда). В 1974 году в Вологде в газете «Вологодский комсомолец» был опубликован большой очерк (в восьми газетных номерах) Леонида Мелкова «По дорогам войны», написанный со слов Скороходова. Его дочь Г.А.Скороходова рассказывает, что журналист много раз подолгу беседовал с ветераном и подробно записал его воспоминания. Ясно, что информация из этого документального очерка заслуживает полного доверия. В нем сообщается, что друзья-однополчане вместе в одной группе бойцов участвовали в обороне крепости, сражались с немцами на разных ее участках, и что Большаков погиб, переплывая реку Мухавец («фашистская пуля угодила ему в голову»), когда группа пробивалась из осажденной крепости. Но «эти воспоминания (цитирую письмо завотделом Музея. – **В.П.**) не являются основанием для увековечения Большакова, так как необходимо было заверить их соответствующим образом в военкомате, что А.Скороходов не делал. В связи с этим Александр Большаков в ЦАМО РФ учтен пропавшим без вести». Вот так!

Вернемся к Некрополю. Там покоятся 1038 участников обороны. А сколько всего защитников погибло в крепости? Существуют самые разные оценки. Немцы утверждали, что погибло 2 тысячи красноармейцев. Но они не вели никакого учета и, думается, их оценка завышена, в чем они были заинтересованы. Сами они потеряли при штурме 500 человек. Соотношение погибших 4:1 даже для данного оборонительного сражения, особенностью которого были внезапность нападения, неподготовленность обороняющихся и др., слишком велико. Трудно себе представить, что земля Брестской крепости через семь с лишним десятилетий после боев все еще скрывает около тысячи тел красноармейцев. С другой стороны, очевидно и то, что не все захоронения в артиллерийских воронках раскрыты и, вероятно, никогда не будут раскрыты. Брестская крепость целиком с ее Цитаделью, окруженной протоками Мухавца и Бугом, с широкими предкрепостными укреплениями с земляными валами и рвами (бои шли во всех ее уголках), по сути является **братской могилой** и таковой, наверное, и останется. Определить общее число погибших при ее обороне можно только в результате тех исследований, основывающихся на косвенных архивных данных, которые ведут энтузиасты.

Воины-защитники, определяемые этими изысканиями как погибшие в крепости в 1941 году, это в большинстве своем те самые официально числящиеся «пропавшими без вести». Нужно учитывать, что в отличие от боев в полевых условиях здесь ситуация особая и почти очевидная – из осажденной крепости никуда не денешься: погибшие при обороне крепости там и лежат. В некрополе Мемориала и в не раскопанных воронках – в общей братской могиле. Здесь тот редкий случай, когда именно архивно-поисковые исследования позволяют вычислить, где лежат останки пропавших без вести воинов. Такие заключения не могут быть абсолютно точными, но так уж сложились исторические судьбы: другого, более точного способа нет и не будет…

Установив имена, нужно сделать следующий шаг – увековечить погибших защитников крепости, остающихся «неизвестными», безымянными, тем самым перевести пропавших без вести в «разряд» погибших за Родину. Сделать это лучше всего, записав их имена на каком-то дополнительном архитектурном элементе Мемориала. Это было бы очень кстати к 75-летию Победы. Имена погибших защитников будут пополняться продолжающимися архивными поисками, но в этом нет ничего страшного.

В качестве аргумента в пользу данного предложения напрашивается пример с фактом увековечения ефрейтора А.Таглина. Его имя было выбито на одной из плит Мемориала (как отмечалось это выше) со слов сослуживцев. А теперь нужно «выбить» имена других павших воинов на основании достоверных исследований.

…Потомки, приходящие к Мемориалу, должны иметь возможность поклониться не каким-то «неизвестно пропавшим», а зная, что их предок погиб при обороне Брестской крепости, и что исключительно велика вероятность, что он тут и лежит.

**Владимир Петрович ПЕРЕПЕЧЕНКО, профессор. г.Вологда.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Палікарпас ЭФСТАЦІУ: «Паток беларускіх турыстаў у Грэцыю расце кожны год!»



Нядаўна Мінск наведаў прадстаўнік Грэчас-кай Нацыянальнай турыстычнай арганізацыі – дырэктар прадстаўніцтва ў РФ і СНД Палікарпас Эфстаціу. У размове з журналістамі ён адзначыў:

«Мы вельмі задаво-лены, што ў гэтым годзе назіраецца вялікі паток беларускіх турыстаў у Грэцыю. І ён расце кожны год, што вельмі важна.

Мы можам сказаць, што нават калі ў Расіі адбывалася падзенне патоку турыстаў, у Беларусі ён рос. Мы бачым, што ўжо ў гэтым сезоне колькасць гасцей з Беларусі вырасла на 15–20%. Гэта выдатны паказчык!

Многія беларусы ўпершыню едуць у Грэцыю, іншыя, адзін раз паспрабаваўшы, вяртаюцца зноў і зноў. Тыя, хто ўжо пабываў, пакідаюць добрыя водгукі. І гэта таксама важна для нас».

РОЗНАГАЛОССЕ

## Каму верыць?

Падчас працы VI Форуму рэгіёнаў Беларусі і Расіі, які на мінулым тыдні праходзіў у Санкт-Пецярбургу, не раз узнікала тэма адмены роўмінгу паміж Беларуссю і Расіяй.

Як вядома, гэтае пытанне застаецца нявырашаным ужо больш за два гады – у чэрвені 2017 года Вышэйшым Дзяржсаветам Саюзнай дзяржавы было дадзена даручэнне галіновым міністэрствам Беларусі і Расіі прапрацаваць пытанне аб адмене роўмінгу паміж нашымі краінамі.

На VI Форуме рэгіёнаў Беларусі і Расіі спачатку намеснік старшыні Савета Федэрацыі **Юрый Вараб'ёў** сказаў журналістам, што «*пакуль мы не знайшлі канчатковага рашэння па адмене роўмінгу, і гэта звязана не з дзяржаўнай палітыкай нашых краін, а з эканамічнай пазіцыяй уладальнікаў сетак (мабільных апаратаў. –* ***Рэд.****). … На жаль, на працягу года вырашыць яго яшчэ не ўдалося, але яно абавязкова будзе вырашана*». Пазней на гэтую ж тэму выказаліся **Міхаіл Мясніковіч** і яго расійская калега **Валянціна Мацвіенка.**

Па інфармацыі БЕЛТА, старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч сказаў, што з боку беларускіх апаратараў ёсць разуменне праблемы, і канкрэтныя рашэнні будуць прымацца на сустрэчы, якая адбудзецца 2 жніўня ў Полацку. А старшыня Савета Федэрацыі Валянціна Мацвіенка дадала, што па яе інфармацыі пытанне роўмінгу будзе вырашана да 15 верасня.

**Іван ШЫРОКІ.**

ЕСТЬ ВОПРОС!

## Стоит ли бояться крылатых муравьев?

*В Минске появились полчища крылатых муравьев. Стоит ли переживать по этому поводу?*

Как пояснил TUT.BY заведующий лабораторией наземных беспозвоночных животных ГНПО «НПЦ НАН Беларуси по биоресурсам» **Олег Прищепчик**, это ежегодный цикл, который будет продолжаться примерно по август.

– Когда после дождя наступает такая «парная», солнечная погода, крылатые муравьи, оплодотворенные самки и самцы, разлетаются на новые территории. Причем это не постепенный, а массовый вылет – муравьи выходят сотнями и тысячами одномоментно. Потом на несколько дней – неделю это может прекратиться до следующего благоприятного периода. Чем чаще станет происходить смена температур, тем чаще они будут роиться, – говорит он.

Как правило, мы видим на городских улицах черных садовых муравьев, которые могут поселиться на газонах или дачных участках, предпочитая почву или сгнившую древесину. Эти насекомые не кусаются и не представляют угрозы для человека. Наоборот, это идет на пользу экосистеме: птицы активно охотятся на крылатых муравьев, так как это легкодоступная пища.

После того как муравьи найдут себе подходящее место для жизни, самка и самцы откусят или сбросят крылья и продолжат свое существование уже бескрылыми.



ДЕМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## У Лідзе паўторна адмовілі актывістам у правядзенні пікета супраць будаўніцтва новага дома

У адказе з Лідскага райвыканкама сябрам ініцыятыўнай групы гаворыцца, што заяву трэба абавязкова падаваць у пісьмовым выглядзе, а не ў электронным, як гэта зроблена.

«Народная Воля» ўжо паведамляла: жыхары вуліцы Тухачэўскага лічаць, што будаўніцтва новага дома на вызначанай пляцоўцы парушае іх правы, прынясе ім шмат нязручнасцяў. Забудоўшчык са свайго боку настойвае на тым, што атрымаў дазвол, і рэалізацыя праекта адпавядае Генеральнаму плану забудовы горада.

Канфлікт працягваецца ўжо больш месяца. Першы раз прычынай адмовы ў правядзенні пікета стала тое, што ў заяву закралася памылка: «*...у прыкладзеным вамі абавязку арганізатара масавага мерапрыемства не ўказана дата яго правядзення, а час правядзення не адпавядае часу, які ўказаны ў заяве*».

Сябра ініцыятыўнай групы **Ігар Маскалёў** зазначыў «Народнай Волі», што ўлады пад усякімі прычынамі будуць адмаўляць ім у правядзенні пікетавання.

«*Першы раз мы таксама падавалі заяўку ў электронным выглядзе*, – тлумачыць Маскалёў. – *І тады на гэта не звярнулі ўвагі! Насамрэч зразумела, што прычыны, па якіх нам адмаўляюць, фармальныя*».

Паводле слоў сябраў ініцыятыўнай групы, канфлікт з уладамі ў іх яшчэ не скончаны, паколькі накіраваны новыя скаргі ў Дзяржстандарт і Мінпрыроды.

«*Па заканадаўстве ў дадзеных выпадках павінны праводзіцца грамадскія абмеркаванні ў форме інфармавання фізічных і юрыдычных асоб і аналіз грамадскай думкі для архітэктурна-планіровачных канцэпцый аб'ектаў будаўніцтва, а гэта не было зроблена*», – кажа «Народнай Волі» сябра ініцыятыўнай групы Ігар Маскалёў.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

СЕМЬЯ

## Уладзіслаў ГАНЧАРОЎ: «Баскава слухаць? Я б лепш на «Рок-Баброў» схадзіў…»

*Алімпійскі чэмпіён па скачках на батуце распавёў «Народнай Волі», дзе адпачываў з жонкай і чаму не наведаўся на «Славянскі базар».*



Зараз **Уладзіслаў Ганчароў** трэніруецца ў Віцебску і рыхтуецца да стартаў Кубка свету, якія пройдуць у верасні. Але знайшоў «акно» і для адпачынку.

– Пасля таго, як закончыліся Еўрапейскія гульні, нам з жонкай Ганнай (*Ганна Ганчарова таксама батуцістка, уваходзіць у склад зборнай Беларусі.* – **Аўт.**) далі адпачынак на тыдзень, – кажа алімпійскі чэмпіён. – Вырашылі з'ездзіць у Турцыю і засталіся задаволеныя. Мора, пляж, досыць камфортнае надвор'е…

**– Чаму такі кароткі адпачынак?**

– Тыдзень – гэта нармальна, бо бывае яшчэ карацейшы. Таму нават пашэнціла, што столькі часу праваляліся на пяску замест штодзённых трэніровак.

Я ўвогуле люблю спакойны адпачынак, бо актыўнасці мне і ў спартыўнай зале хапае. Трэба даць целу адпачыць, таму на турэцкі масаж хадзіў, наведваў СПА-праграмы.

**– За год колькі разоў удаецца адпачыць?**

– Максімум – два разы. Летам звычайна спаборніцтвы нейкія праходзяць, таму рэдка ўдаецца куды-небудзь паехаць. Але зараз пасля Еўрапейскіх гульняў амаль тры месяцы да стартаў, таму дазволілі і адпачыць.

Добра таксама, што з Ганнай мы разам трэніруемся і ў нас цалкам супадае рабочы графік і адпачынкі.

**– Вы ажаніліся паўтара года таму. Сямейнае жыццё не расчаравала?**

– Мы столькі з Ганнай ведаем адзін аднаго, што ў нас пасля вяселля наогул нічога ў жыцці і адносінах не змянілася. Хіба што штампы ў пашпарце з'явіліся.

**– Жывяце вы асобна ад бацькоў?**

– Так, набылі двухпакаёвую кватэру ў Віцебску яшчэ ў 2014 годзе.

**– Можа, на «Славянскім базары» з жонкай хадзілі Баскава паслухаць?**

– Не, для мяне гэта, што называецца, не ў кайф. Мне іншая музыка падабаецца– больш рокам захапляюся. Таму замест песень Баскава ці Бузавай я б з задавальненнем паслухаў выканаўцаў фэсту «Рок за Баброў», што ў хуткім часе адбудзецца ў Мінску. На жаль, трэніровачны графік такі, што не ўдасца патрапіць на гэтае цудоўнае мерапрыемства.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЖИВАЯ МУЗЫКА

## И провинция достойна Шостаковича

У Международного фестиваля классической музыки «В Шеметово. У Шостаковичей», который только что закончился на Нарочи, есть два бесспорных преимущества: концерты проходят в провинции, и порой даже не в райцентре, а еще дальше, что называется, в глубинке. Это раз. И вход на них совершенно свободный – два. Другое дело, чего это стоит его организатору Аркадию Володосю… Но свое кредо – общедоступность музыкальных представлений, посвященных великому Шостаковичу, чей прадед родился и жил на белорусской земле в местечке Шеметово Завилейского уезда (теперь – Мядельский район), – это кредо за четыре фестивальных года Володось ни разу не нарушил. Хотя Белгосфилармония прозрачно намекала – переводите фестиваль в столицу. Фестиваль имени Шостаковича – да под это имя можно собрать таких звезд!

Но в том-то и дело: классическая музыка должна звучать не только в Минске и областных городах. В Европе летом каждый городок считает своим долгом вывесить афиши о серии классических концертов, потому что жители не должны быть ограничены в доступе к искусству только лишь потому, что обитают не в мегаполисе. Именно эту традицию пытается привить нам А.Володось – кстати, у советской власти это называлось «культуру – в массы», не самый худший лозунг, отметим. И он не устарел, достоин уважения, тем более что уровень выступлений на фестивале «В Шеметово. У Шостаковичей» отнюдь не провинциальный. Кроме белорусских музыкантов, Володось приглашает солистов из Европы. И они едут в белорусскую деревню! Например, в прошлых сезонах выступали скрипачка Шарлотт Жуйяр, гобоист Жером Гишар из Франции, певицы Софья Петрович из Сербии и Даниэла Енчева из Болгарии. В этом году на фестиваль в Мядельский район приехал профессор высшей Парижской консерватории, солист Парижского симфонического оркестра кларнетист Филипп Берро.

Напомню, что Аркадий Володось – оперный певец и педагог, наш соотечественник, сделавший в свое время успешную сольную карьеру на Западе. Закончив свою гастрольную деятельность, он организовал ассоциацию «Францыя – Беларусь. Сяброўства». И, так как постоянно живет под Парижем и имеет значительные контакты среди французской богемы, стал успешно налаживать связи между французской и белорусской творческой интеллигенцией. Например, благодаря его семье многие наши живописцы уже несколько раз приняли участие в знаменитых парижских выставках в Гранд Пале. А Международный музыкальный фестиваль, посвященный великому композитору XX века Дмитрию Шостаковичу, который, повторю, проходит в белорусской глубинке с 2016 года, в будущем, уверена, принесет настоящую музыкальную славу нашей стране.

**Елена МОЛОЧКО.**

ПЕРЕД СОБЫТИЕМ

## Макс Корж собирает олимпийский стадион



Еще месяц до концерта Макса Коржа в Минске, а билетов... нет. «Макс поставил на уши весь город», – задыхаются от восторга фанаты. И ведь не поспоришь: кто еще из белорусских исполнителей собирает стадионы? А именно на олимпийском стадионе «Динамо», который вмещает 22.246 зрителей, Корж будет зажигать 24 августа.

Чем покоряет певец? Простотой, искренностью, энтузиазмом. Песни Макса Коржа – это некий гибрид клубного и дворового жанров. При этом на выходе рождаются 100-процентные хиты.

У певца «голливудская» биография. Мальчик из простой семьи из далекого полесского Лунинца мечтает о большой сцене. Но где те тропинки, что ведут на олимп? За плечами всего лишь начальная музыкальная школа. Он хочет продолжать учиться дальше, но родители против музыки как профессии. Разве она накормит? Семья настаивает на университетском образовании. И Максим поступает в БГУ на престижнейший факультет – международных отношений.

Но призвание – а теперь мы можем говорить об этом всерьез – бередит его душу. После второго курса Макс оставляет университет и окунается в музыку. Конечно, проходит через череду неудач, но наконец наступает переломный момент: на одолженные у мамы 300 долларов записывает судьбоносный трек «Небо поможет нам» и уходит в армию. И – о, радость! – песня становится маленьким хитом, ее ротацией занялись некоторые радиостанции. Сослуживцы и «деды» рэпера выстраиваются в очереди за автографами.

С тех пор практически каждая новая песня Макса становилась стопроцентным хитом и слышалась из всех домов, дворов, машин и общежитий. Рэпер стал собирать тысячные залы. И не только в Минске, но и в СНГ, и за рубежом в Варшаве, Лондоне и Праге. В июне 2015 года исполнитель был номинирован на премию Муз-ТВ сразу в трех категориях: «Лучший альбом», «Лучший хип-хоп проект» и «Лучшее концертное шоу». Он записал пять студийных альбомов.

**Виктория ДРОЗД.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Беларускі «Пітбуль» нагадаў пра сябе на рынгу і не толькі

*У мінулыя выхадныя Андрэй Арлоўскі (на фота справа) стаў рэкардсменам у змешаных адзінаборствах па колькасці перамог у цяжкай вагавай катэгорыі.*



Перамога над ірландцам **Бенам Ротвелам** стала для Арлоўскага 17-й у баях турніру, хаця гэта першы поспех беларускага спартсмена, пачынаючы з сакавіка 2018 года.

Увогуле, за адзін паядынак Андрэй устанавіў яшчэ два рэкорды. Другім стала колькасць нанесеных трапных удараў у баі з трох раўндаў сярод цяжкавагавікоў (152 удары), трэцім рэкордам – сумарная працягласць усіх баёў Арлоўскага. Ён правёў у баі 4 гадзіны 33 хвіліны і 13 секунд.

Яшчэ беларускі спартсмен, які мае мянушку «Пітбуль», адзначыўся тым, што ў інтэрв'ю пасля паядынку выказаўся досыць эмацыянальна. У трох сказах было столькі лаянкі, што вушы ў многіх закруціліся ў трубачку. Такім чынам Арлоўскі адказаў крытыкам, якія пускалі ў яго стрэлы за тое, што той доўга не меў перамог.

Але многія яркі талент прамоўцы не ацанілі. А пазней Андрэй і сам зразумеў, што нагаварыў зашмат непатрэбнага, а таму выбачыўся за нецэнзурную лексіку.

*«Я выбачаюся перад усімі,* – сказаў ён. – *Не хацеў нікога пакрыўдзіць. Абяцаю, што больш не буду выкарыстоўваць такія словы».*

Андрэй Арлоўскі дадаў, што гэты паядынак быў для яго вельмі складаным: *«Не мог дачакацца, калі прагучыць гонг, таму стараўся «вязаць» саперніка і трымаць ля сеткі. Я абяцаў сыну, што вярнуся з перамогай, працягваў змагацца. Было неверагодна складана. А пасля бою я плакаў, бо сын мне сказаў: «Тата, спадзяюся, што ты абавязкова пераможаш». Гэта было для мяне вялікай матывацыяй».*

Дарэчы, раней «Пітбуль» прызнаваўся, што ў гады яго папулярнасці здзейсніў шмат учынкаў, пра якія зараз шкадуе.

*«Быў алкаголь, брудныя танцы, хаця абышлося без наркотыкаў,* – распавёў Андрэй onliner.by. – *У рускую рулетку таксама гуляў, калі паспрачаўся. Іграў у казіно, прайграваў, а затым біўся, каб разлічыцца. Але потым зразумеў, што пэўная сума зарабляецца тыднямі трэніровак, а прайграецца ў тым жа казіно за хвіліны. І зараз я стаў больш адказным, у мяне ёсць сям'я, сын.*

*Дарэчы, траўма сківіцы, якую я атрымаў, для сына была як забаўка – бачыў у таты дзірку ў роце і спрабаваў туды запіхаць свой пальчык».*

Па словах Арлоўскага, ён не хоча для сына такога жыцця, якое было ў яго.

*«Праўда, калі ўпарта будзе стаяць на сваім і скажа, што хоча стаць байцом баёў без правіл ці проста баксёрам, то я пастараюся перадаць яму свой вопыт»,* – дадаў спартсмен.

**Сяргей НІКАНАРАЎ.**

ЛИЧНАЯ ЖИЗНЬ

## Сын Ярмоленко женил… сына

48-летний Святослав Ярмоленко – музыкант ансамбля «Сябры» и сын народного артиста Беларуси Анатолия Ярмоленко на днях загадал ребус для поклонников этой знаменитой семьи. В соцсетях он опубликовал фотографию свадьбы молодого человека и чернокожей красавицы, сопроводив ее текстом: «Мой старший сын женился! Тем самым расширив границы нашей многонациональной семьи! Теперь к родным для нас русскому, белорусскому, украинскому, английскому и идиш прибавился и испанский язык! Sandra Caicedo, добро пожаловать в нашу семью!».

Точки над «і» расставил Анатолий Ярмоленко:

– *Конечно, это не мой внук. Это сын Аллы Сандлер – супруги Святослава, от первого брака,* – рассказал нам Анатолий Иванович. – *Он уже достаточно взрослый молодой человек, ему 25 лет и семья, конечно. считается с его выбором. Насколько мне известно, невеста Симона из Колумбии. Свадьба состоялась в США, где живет Алла Сандлер. Присутствовал на торжестве, конечно же, и Святослав.*

К слову, супруга Святослава Ярмоленко имеет белорусские корни. Алла Сандлер родом из Бобруйска. В 1994-м она уехала из Беларуси в США вместе с первым мужем и 10-месячным сыном. В 1998-м занялась организацией концертов в США и Канаде музыкантов и артистов из бывшего СССР. Среди исполнителей, которых привозила Алла, был и ансамбль «Сябры». Так в 2008 году она познакомилась со вторым мужем Святославом Ярмоленко. В 2012 году Алла стала петь сама, взяв сценический псевдоним Славина в честь супруга. В прошлом году в пригороде Балтимора невестка Анатолия Ярмоленко открыла собственный ресторан.

– *Святослав сейчас живет на две страны,* – говорит Анатолий Ярмоленко. – *Работает и у нас, и делает проекты с Аллой в Америке. Они очень активно там работают в сотрудничестве с нашим посольством в США….*

**Мария ЭЙСМОНТ.**



**На фото: слева от молодых стоят Святослав Ярмоленко и его супруга Алла Сандлер.**

ЧУЛІ?

## Выйграў тону бензіну!

Больш 500 удзельнікаў з 8 краін, у тым ліку з Польшчы, Германіі, Літвы, Расіі, Украіны, Беларусі, у мінулыя выхадныя ўзялі ўдзел у міжнародным аўтафестывалі SunDay-2019, які ўжо дзясяты раз адбыўся ў Гродне.

Сёлетні фэст арганізатары назвалі найбольш удалым за 10 год. Паводле агучаных дадзеных, фестываль за два дні наведалі 22 тысячы 500 гледачоў.

Насамрэч, паглядзець было на што: дарагія машыны, шмат прыгожых дзяўчат, эратычная мойка аўто і канцэрт IOWA. Разынкай фестывалю, як адзначалі адмыслоўцы, сёлета стала лінейка легендарных японскіх машын 1990-х гадоў: Acura NSX прыехала з Адэсы, NissanSkyline GT-R – з Калінінграда, Санкт-Пецярбурга і Уладзікаўказа, ToyotaSupra – з Вільнюса, Mazda RX7 і Subaru BRZ – з Масквы.

Адзін з удзельнікаў фестывалю дабраўся ў Гродна з Анапы на самаробным рэдроўдзе па прозвішчы Сенсэй за 2300 кіламетраў. Самы доўгі аўтамабіль, які быў прадстаўлены на фестывалі, – «Кадзілак Дэвіль» 1963 года выпуску – 6 метраў даўжыня і больш 2 метраў шырыня.

Самы дарагі аўтамабіль на фестывалі адмыслоўцы назвалі «Морган» – 160 тысяч еўра. Ён прыехаў у Гродна з Германіі. Падчас фестывалю абралі самую прыгожую дзяўчыну, а таксама разыгралі 1 тону бензіну. Хлопец, які выйграў паліва, прызнаўся, што патраціць яго на ўласнае аўто.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

СМУТАК

## «Я не мог маніць…»

*У Мінску развіталіся з акцёрам Купалаўскага тэатра Аўгустам Мілаванавым.*

Аўгуст (Аўгусцін) Мілаванаў нарадзіўся ў 1937 годзе ў Валгаградзе. З 1957 года жыў у Мінску. Закончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, з 1962 года акцёр Купалаўскага тэатра.

Сярод роляў – Тата («Зацюканы апостал»), Вяршыла («Мудрамер»), за ролю якога артыст у 1988 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі, іранічны імператар Ромул («Ромул Вялікі»), малочнік-філосаф Тэўе («Памінальная малітва») ды іншыя.

Вось некаторыя вытрымкі аднаго з апошніх інтэрв'ю Аўгуста Мілаванава:

*«Скажу шчыра: ніколі не любіў камуністаў,* – цытуе акцёра press-ball.by. – *У 1953 годзе мама купіла мне радыёпрыёмнік «Рыга», я зрабіў антэну і з таго часу пачаў слухаць «Голас Амерыкі». Глушылі яго, безумоўна, са страшнай сілай, але што-нішто даведацца пра сапраўднае жыццё краіны ўсё-такі ўдавалася. Многія дэталі раскрываліся з жахлівым разуменнем таго, што адбываецца. З праграмы «Голаса» ўпершыню даведаўся пра ГУЛАГ, пра нашы савецкія канцлагеры, якія былі нават горш за нямецкія. Усё, што нам казалі з экранаў тэлевізараў і паведамлялі ў перадавіцах газет, было абсалютнай няпраўдай.*

*Які да д'ябла камунізм? Мінск, Ленінград, Масква, Кіеў жылі нармальна, а далей, у правінцыі, народ галадаў. Хто будзе працаваць за палачкі – так званыя працадні, ведаючы пра тое, што восенню табе могуць за гэта даць, а могуць і не даць? Калі людзям плацяць, яны працуюць. А ў гэтай краіне правадыры хацелі, каб народ працаваў за ідэю, за бясплатна – пад такім ж дурнымі лозунгамі. Краіна падману»;*

***

*«Мяне не агітавалі ўступаць у КПСС, разумелі, што тут няма ніякіх перспектыў. Я на ўсіх сходах у тэатры выступаў на мяжы фолу. На самай справе, чаму пра змест «закрытых лістоў» камуністы могуць ведаць, а беспартыйныя не могуць? Мы што, быдла? Ну тады нас савецкім народам не абзывайце, кажыце як ёсць.*

*Многія мяне ў тэатры падтрымлівалі, але баяліся рабіць гэта адкрыта. А я заўсёды быў гатовы з'ехаць дадому ў Валгаград. Але паколькі быў вельмі заняты ў рэпертуары, то ні ў кога рука на мяне не падымалася»;*



***

*«У 1979 годзе пашанцавала паехаць у турыстычную паездку ў Англію на дзесяць дзён. Вярнуўся дадому ў тэатр, дзе мы ставілі нейкую ідэйную савецкую п'есу, і зразумеў, што рэпеціраваць не магу. Хоць забіце. Я не мог маніць, таму што ўбачыў, як загнівае капіталізм, і гэта мяне неверагодна ўразіла. Дай Божа нам было гэтак жа загніваць, хаця б напалову альбо на чвэрць»;*

***

*«Заходнія пенсіянеры на заслужаным адпачынку пачынаюць падарожнічаць, і ім ёсць на што. Калі б я атрымліваў нармальныя грошы за фільмы, у якіх здымаўся, то нядрэнна сябе б адчуваў – не горш нямецкіх пенсіянераў.*

*А нас жа не толькі падманвалі, але яшчэ і галаву апілкамі на шмат гадоў наперад забівалі. Некаторыя зараз на поўным сур'ёзе смуткуюць па мінулым. Тым, у каго такая настальгія, патрэбна ў ГУЛАГ, там таксама вогнішчы былі, каб пагрэцца на марозе. Столькі казак распавядаюць пра тыя часы. Пра ўзорны парадак… Ды дзе яны яго бачылі? Краіна ў лапцях хадзіла, а танкаў выпускала больш, чым увесь астатні свет, разам узяты».*

**P.S.** *Аўгуст Мілаванаў пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



Алесь СІВЫ

# Пралёт нармальны!

Беларускія футбольныя клубы выйшлі за межы нацыянальнага першынства і вырашылі паказаць сваю моц у Еўропе. Але ўсё закончылася калі не поўным канфузам, то добрай аплявухай. Пры гэтым прызямлілі беларусаў з аблок на грэшную зямлю далёка не гранды сусветнага футбола, а досыць пасрэдныя каманды, якія паказалі нам наша месца.

І больш за ўсё крыўдна за мінскае «Дынама»! Каманду з багатымі традыцыямі ў гэтым годзе калашмаціць, як баркас у акіянскі шторм. Чаго варты хаця б той факт, што амаль да самага пачатку сезона футбалісты рыхтаваліся ў невядомасці пра сваю будучыню. Было дакладна вядома, што бізнесмен Юрый Чыж, які апошнім часам патрапіў у апалу, развітаецца з камандай, але пра новага ўласніка ніхто нічога не казаў. Таму цьмянымі ўяўляліся і перспектывы «Дынама».

У рэшце рэшт клуб да Чыжа як прыйшоў, так і сышоў. У 1990-я бізнесмен набыў «Дынама» літаральна за капейкі, а зараз яму і наогул ніводнай капейкі не заплацілі. Праз 20 гадоў Эканамічны суд Мінска пастанавіў, што ў снежні 1999 года Юрый Чыж незаконна завалодаў акцыямі клуба, бо… яны не былі зарэгістраваны ва ўстаноўленым парадку. Зрэшты, у гісторыі сучаснай Беларусі і не такое здараецца.

Але справа не ў Чыжу і яго акцыях. Відавочна, што ўсё гэта адбілася на камандзе. Упершыню за 14 гадоў (!) мінскае «Дынама» выляцела ўжо ў стартавым раўндзе еўракубкаў. І прайгралі «бела-блакітныя» не лонданскаму «Арсеналу» ці мадрыдскаму «Рэалу», а латвійскай «Ліепае», якая ніколі зорак з неба не хапала.

*«У футболе не бывае без паражэнняў*, – аптымістычна заявіў пасля матча галоўны трэнер «Дынама» Сяргей Гурэнка. – *Не трэба гараваць, трэба больш працаваць, і праз гэта можа прыйсці вынік. У мінулым годзе мы б прайшлі «Ліепаю» без праблем, але год на год не прыпадае»*.

Калі Гурэнка забыў, то ў мінулым годзе мінскае «Дынама» пасля перамогі ў Лізе Еўропы на дамашнім полі над піцерскім «Зенітам» з сенсацыйным лікам 4:0, затым не менш сенсацыйна саступіла ў гасцях – 1:8. Як бачым, і на самай справе – «не трэба гараваць».

Канфузам зараз закончылася і выступленне ў Лізе Еўропы «Віцебска», які па суме двух матчаў саступіў малавядомаму фінскаму клубу «Куопіа». І ведаеце што сказаў пасля гульні настаўнік віцебскай каманды Сяргей Ясінскі?

*«Я вельмі рады, што нашы футбалісты праявілі характар, біліся да самага канца… Па вялікім рахунку, я задаволены футбалістамі, гэта блізка да мяжы таго, што мы можам»*.

Калі ўжо гэта для «Віцебска» мяжа, то пра якія тады перспектывы беларускага футбола можна казаць? Усе адзначаюць, што футбол у свеце прагрэсіруе, падцягваюцца да эліты краіны, якіх раней можна было перамагаць адной левай. Значыць, мы не прагрэсіруем? Альбо засталіся на ранейшым узроўні, альбо наогул адбываецца дэградацыя. Нават салігорскі «Шахцёр», які прайшоў у наступны раўнд, не без цяжкасцяў адолеў мальтыйскі «Хіберніанс».

Радуе хіба што барысаўскі БАТЭ, які прабіўся ў другі раўнд кваліфікацыі Лігі чэмпіёнаў, як кажуць, на характары. Але на тое і клас каманды, каб гэта самы характар у патрэбны момант праявіць, а не ківаць затым на тое, што «гэта мяжа таго, што мы можам». Зрэшты, у кожнага і насамрэч свае межы. Хтосьці імкнецца да аблокаў, а ў некага прастора абмяжоўваецца звычайнай загародкай у хляве.

ФУТБОЛ

# Першы круг адгулялі

*Прайшлі матчы 16-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: «Энергетык-БДУ» (Мінск) – «Слуцк» – 0:1, «Нёман» (Гродна) – «Гомель» – 1:1, «Гарадзея» – «Іслач» (Мінскі раён) – 1:2, «Дынама» (Брэст) – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 4:1, «Віцебск» – «Мінск» – 1:1.



Фота: dynamo-brest.by.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 16 | 12 | 3 | 1 | 37–10 | 39 |
| БАТЭ | 15 | 12 | 1 | 2 | 28–6 | 37 |
| Шахцёр | 14 | 10 | 1 | 3 | 22–11 | 31 |
| Іслач | 16 | 9 | 2 | 5 | 23–19 | 29 |
| Дынама (Мн) | 15 | 9 | 1 | 5 | 22–15 | 28 |
| Тарпеда-БелАЗ | 16 | 8 | 3 | 5 | 23–19 | 27 |
| Нёман | 16 | 6 | 3 | 7 | 19–22 | 21 |
| Гарадзея | 15 | 5 | 5 | 5 | 11–14 | 20 |
| Славія | 14 | 5 | 3 | 6 | 17–17 | 18 |
| Віцебск | 15 | 4 | 5 | 6 | 14–19 | 17 |
| Слуцк | 16 | 4 | 5 | 7 | 12–24 | 17 |
| Энергетык-БДУ | 16 | 3 | 5 | 8 | 22–39 | 14 |
| Мінск | 16 | 2 | 8 | 6 | 19–25 | 14 |
| Гомель | 16 | 3 | 4 | 9 | 24–28 | 13 |
| Дняпро | 15 | 2 | 4 | 9 | 14–25 | 10 |
| Тарпеда | 15 | 1 | 3 | 11 | 4–18 | 6 |

МАЗАІКА

# Такі хакей нам не патрэбны

*Асуджаны хакеісты маладзёжнай хакейнай каманды мінскага «Юнацтва», якіх у красавіку сёлета міліцыянеры злавілі з гашышам.*

Як інфармуе прэс-служба Вярхоўнага суда, крымінальныя справы разглядаў суд Цэнтральнага раёна сталіцы. Хакеістаў прызналі вінаватымі ў незаконным набыцці і захоўванні наркатычных сродкаў без мэты збыту. Сваю віну яны прызналі цалкам. Хлопцы атрымалі 2 гады абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу.

У судзе было агучана, што 18-гадовы хакеіст купіў больш за 0,4855 грама гашышу. Ён яго неаднаразова ўжываў, а тое, што засталося, вазіў з сабой і па Мінску, і па Беларусі. 19-гадовы хакеіст купіў больш за 0,7222 грама наркотыка, які таксама яго ўжываў і вазіў з сабой.

ВРЕМЕНА И НРАВЫ

# Эпидемия самофотографирования

*Что за этим стоит?*



Первое селфи было сделано 180 лет назад, но настоящий бум самофотографирования пришелся на наш XXI век.

Американец Джеймс Смит за три минуты сделал 168 селфи – теперь он в Книге рекордов Гиннесса. В ней же значится и его соотечественник Патрик Петерсон, иаснимавший сам себя за один час 1449 раз. Такой скорострельности наверняка позавидовал бы автор первого в мире селфи, сделанного без малого два столетия назад. В 1839 году начинающему фотографу из Филадельфии Роберту Корнелиусу потребовалось около 15 минут на экспозицию, чтобы получить свое изображение на посеребренной медной пластине.

Первое селфи – дагерротип, которым не похвастаешься подписчикам в соцсетях, им не соберешь лайки и комментарии, как это рутинно происходит в наши дни. Зато снимок Корнелиуса хранится как историческая ценность в библиотеке Конгресса США.

Кстати, само слово «селфи» (производное от английского self – сам, себя; в русском языке есть еще «самострел» и «себяшка») получило признание не так давно. Его включили в Оксфордский словарь в 2013 году. Определение дано простое: «это фотография, сделанная вами самими обычно на смартфон или веб-камеру и загруженная в соцсети». Именно последнее, впрочем, затрудняет ведение статистики по этому явлению. Если в интернете ежедневно появляются десятки миллионов селфи, то сколько их хранится в памяти гаджетов или пересылается приватно в мессенджерах – оценить невозможно. А ведь существует еще опция исчезающего снимка, которую используют нередко в интимной переписке: отправил откровенное селфи адресату и после первого просмотра фото тут же удаляется. Такие селфи вовсе неуловимы для учета.



### Казаться лучше

Селфи – это проявление того, как разные факторы, и прежде всего культура, влияют на нас и наше восприятие себя. В конце XX века на Западе был огромный интерес к идее самооценки, которую следом подхватил остальной мир. Идея простая: если мы хотим, чтобы люди были классными, надо им об этом постоянно твердить.

В результате выросло целое поколение, которому с детства родители и педагоги вбивали идею о необходимости повышать свою самооценку. На самом деле это ложный конструкт, который мы приняли за чистую монету. Высокая самооценка – это плохо, если она ни на чем не основана.

Сейчас распространен подход, что надо говорить ребенку, да и взрослому, что он особенный. Это опасный путь, когда нет связи с реальными достижениями, реальным социальным успехом. «Я особенный» – это определение нарциссизма. И его уровень, по крайней мере в западном обществе, очень высок, что проявляется и через селфи.

Конечно, мы живем в слишком сложном мире, чтобы делить все на черное и белое. Социальные сети действительно демократизировали рынок, сделали многих молодых людей видимыми, помогли им построить карьеру. Это и то, что называется феноменом Ким Кардашьян (*американская звезда реалити и соцсетей, выпустившая книгу своих селфи.* – **Ред.**) и настоящие истории успеха.

Помимо нарциссизма есть и другая проблема – перфекционизм. Прежде считалось, что это хорошо, когда человек стремится к высоким стандартам. Но к чему это привело? Многие боятся выглядеть и действовать не так хорошо, как ожидается и социально одобряется. Идеальным надо быть во всем: идеальным родителем, идеальным работником… Исследование, проведенное в Великобритании, показало, что с 1990-х годов среди молодежи на 30% вырос уровень социального перфекционизма, то есть жизнь с оглядкой на других. Стоит ли удивляться, что с селфи на нас смотрят сплошь открытые, дружелюбные, общительные, обаятельные, жизнерадостные… В нынешнем мире с его культурой селфи комфортнее себе чувствуют экстравертные личности. Что не исключает и у них этого параноидального мышления: а достаточно ли я хорош?

Вдобавок в соцсетях идет постоянная игра за статус, быть лучше, популярнее, игра бессознательная или целенаправленная. Селфи – одно из орудий в этой игре…

**Уилл СТОРР, британский писатель.**

И все-таки кое-что подсчитать удалось. Селфи все возрасты покорны, но ядро поклонников, что предсказуемо, молодежь. Из парадоксального – женщин среди делающих селфи больше, но перевес всего в пару процентов. Зато ретушировать или использовать фильтры, чтобы «улучшить» себя на снимке, как выяснилось, больше склонны мужчины. Может, и потому, что в массовом восприятии делать селфи по-прежнему считается не «мужским занятием».



Вдобавок к этому группа ученых из Мюнхенского университета описала «парадокс селфи». Участники исследования оценивали собственные и чужие селфи.

Оказалось, что свои снимки люди чаще всего воспринимают как оригинальные, самоироничные, а чужие – как показные и поверхностные.

«Люди не склонны признавать в себе тягу к самолюбованию и тем более нарциссизму, что не мешает им отмечать это в других»,– объясняет соавтор исследования психолог Сара Дифенбах.

Мотивы самофотографирования, впрочем, самые разные: не только показать себя и произвести впечатление, но и зафиксировать момент на память, побудить к общению, а еще оценить свой внешний вид со стороны. Например, в ситуации, когда человек выбирает новую вещь в магазине, примеряет и отправляет селфи, чтобы посоветоваться с кем-то: брать – не брать. По-научному все это называется обобщенно – формирование своей индивидуальности и поиск идентичности. Если так, то почему бум селфи, впервые сделанного почти два века назад, пришелся на наше время?

Взрывообразную популярность селфи в XXI веке обеспечили современные технологии. Прежде всего появились площадки для демонстрации селфи – социальные сети. В середине 2000-х это был MySpace, затем знамя перехватил Facebook, где можно было выкладывать снимки в более высоком качестве, поворотным моментом стало возникновение Instagram – платформы, созданной именно для публикации фотоснимков. В 2010-м был выпущен iPhone4 – первый смартфон с фронтальной камерой, по сути, предназначенной специально для селфи.

Селфимания в свою очередь породила целую индустрию. Тут и селфи-палки, и селфи-лампы с держателем для смартфона и пультом дистанционного управления, и приложения для редактирования снимков.

Более того, меняется мода на селфи. То, чтоб макияж как маска, скрывающая все несовершенства, теперь, наоборот, максимальная естественность, доводимая до абсурда немытой головой и растянутыми трениками в кадре.

Случаются и вовсе экзотические поветрия, когда, например, накануне последнего Нового года в Сети появились селфи, на которых девушки с бровями, уложенными в форме разлапистых елей и блестками на них наподобие елочных шаров. Это если речь идет о лице, под категорию селфи сейчас попадают и отдельные части – грудь, попа, колени, причем как женские, так и мужские. Моду зачастую задают знаменитости.

Несмотря на вольницу, в отношении селфи все же действует негласный этикет. Не комильфо выкладывать в Сеть селфи, например, с похорон, в храмах или с двойником Гитлера, выставленным в Музее восковых фигур (реальный скандальный случай в Индонезии, в итоге фюрера убрали из экспозиции).

Селфи давно вырвалось за пределы Сети. Это предмет научных дискуссий. Повышает самооценку, утверждают одни. Вызывает зависимость, заявляют другие.

О феномене пишут романы, снимают сериалы, ставят спектакли. Музеи устраивают выставки, продумывая удачные точки для селфи.

А в одной из лондонских кофеен придумали «селфичино»: клиент отправляет свое селфи, специальный аппарат печатает его на молочной пенке. На выходе – капучино с портретом из корицы...

Такая вот эволюция селфи.

**Мария ПОРТНЯГИНА.**

ШАХМАТЫ

### Задача-мініяцюра

Яе склаў для нашых чытачоў Міхаіл Кошаль з Мінска *(гл. дыяграму)*.

**Белыя:** Кph8, Фh1, Лc4, Сc8 (4).

**Чорныя:** Кpe5, пп. b7, h5 (3).

**Мат за 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі (*220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а*) або на электронны адрас: *vadim_ne67@mail.ru.*




### Баталіі ў «храме кнігі»

На чэмпіянаце Беларусі па шахматах, які сёлета праходзіў у будынку Нацыянальнай бібліятэкі і прысвячаўся стагоддзю славутага грасмайстра Ісаака Баляслаўскага, у мужчын змагаліся 4 грасмайстры, 3 міжнародныя майстры і 3 майстры ФІДЭ. Перамог грасмайстар ***Аляксей Аляксандраў*** (шосты раз, у тым ліку запар у 2018-м і 2019 гадах). На другім месцы – грасмайстар ***Кірыл Ступак***, на трэцім – міжнародны майстар ***Міхаіл Нікіценка***. Цікавасць выклікаў удзел у турніры двух зусім юных майстроў ФІДЭ: 12-гадовы ***Арцём Стрыбук*** заняў апошняе месца, а вось 13-гадовы ***Дзяніс Лазавік*** быў шосты, набраўшы 50% магчымых ачкоў.

Вось адна з перамог чэмпіёна.

***Аляксей Аляксандраў – Віталь Цецераў***

1.d4 d5 2.c4 dc 3.Kf3 a6 4.a4 Кc6 5.e3 e5 6.С:c4 Сb4+ 7.Кc3 ed 8.ed Кf6 9.0-0 0-0 10.h3 Сf5 11.Сg5 Фd6 12.Лc1 Кe4 13.Кd5 К:g5 14.К:g5 Сa5 15.b4 С:b4 16.К:f7 Л:f7 17.К:b4 Ф:b4 18.С:f7+ Кр:f7 19.d5 20.Л:c7+ Кpf6 21.d6 Лd8 22.f4 Кf7 23.Фh5 Лf8 24.Фh4+ Кpg6 25.g4 h6 26.Фh5+ Кph7 27.Ф:f5+ Кpg8 28.Фd5 Ф:a4 29.d7 Фa3 30.Кpg2 Фe7 31.Л:b7 Кph8 32.d8Ф, 1:0.

### Самая юная, самая моцная

Жаночы чэмпіянат Беларусі (10 удзельніц, у тым ліку 3 грасмайстры, 1 міжнародны майстар і 2 майстры ФІДЭ), прысвячаўся стагоддзю колішняй віцэ-чэмпіёнкі свету Кіры Зварыкінай і завяршыўся сенсацыйна. Яго выйграла 12-гадовая гімназістка з Брэста ***Аляксандра Тарасенка*** (трэнер Уладзіслаў Каташук). Дэбютантка пачала турнір з сямі перамог запар і за тур да фінішу забяспечыла сабе залаты медаль. На другім месцы – майстар ФІДЭ ***Наталля Кусянкова***, на трэцім – грасмайстар ***Генрыета Лагвілава***.

Вось прыклад гульні юнай чэмпіёнкі.

***Ланіта Сіяцко – Аляксандра Тарасенка***

1.d4 d5 2.Кf3 Кc6 3.c4 Сg4 4.Кc3 e6 5.cd ed 6.Сf4 Сd6 7.К:d5 С:f3 8.gf С:f4 9.К:f4 Ф:d4 10.Ф:d4 К:d4 11.0-0-0 0-0-0 12.e3 Кc6 13.Сh3+ Кpb8 14.Л:d8+ К:d8 15.Кd3 Кe7 16.Кe5 b6 17.Лg1 Лg8 18.f4 f6 19.Кd7+ Кpb7 20.e4 Кg6 21.f5 Кe7 22.e5 fe 23.К:e5 Лf8 24.Л:g7 К:f5 25.Л:h7 Кd4 26.Кd3 Лg8 27.f4 Кf3 28.Сf5 Лg1+ 29.Кpc2 Кd4+ 30.Кpc3 К:f5 31.h4 Кc6 32.h5 Лh1 33.Кf2 Лh4 34.Кe4 Л:f4 35.Кg5 Кce7 36.h6 Лh4 37.Кf7 Кg8 38.Кd8+ Кpc8 39.Кe6 Л:h6 40.Л:c7+ Кpb8, 0:1.

### «Генеральная рэпетыцыя»

Завяршыліся першынствы Беларусі сярод шахматыстаў да 20 гадоў. У юнакоў асноўная барацьба вялася паміж міжнароднымі майстрамі ***Вячаславам Зарубіцкім*** і ***Міхаілам Нікіценкам***, якія фінішавалі адпаведна на першым і другім месцах (трэцяе заняў Іван Рунец). У дзяўчат упэўненую перамогу атрымала самая маладая ўдзельніца – 12-гадовая ***Саша Тарасенка***. Два наступныя прызавыя месцы занялі ***Яна Ільючык*** і ***Арына Кузіч***.

### У курортных умовах

У Анталі (Турцыя) адбыўся чэмпіянат Еўропы сярод жанчын (130 удзельніц з 32 краін). З трох беларусак Вольга Бадэлька фінішавала на 41-м месцы, Наталля Кусянкова – на 60-м, Яна Ільючык – на 98-м.

### Залаты «дубль»

***Ягор Сіліч*** з Віцебска стаў чэмпіёнам Еўропы сярод школьнікаў да 13 гадоў (нагадаем, што сёлета ён таксама заваяваў званне чэмпіёна свету ў гэтай жа катэгорыі). Наш чытач Мікалай Шкляраўскі запытаўся, хто трэніруе Ягора. З ім займаліся Міхаіл Палуэктаў, Аляксандр Сарбай і грасмайстар Андрэй Кавалёў.

### Праверце адказы

Задача У.Траяноўскага, змешчаная ў «Народнай Волі» 11 чэрвеня, рашаецца: **1.d3**.

Першымі правільна адказалі ***Мікалай Шкляраўскі, Васіль Жуковіч, Ігар Гулік, Уладзімір Панько***.

Не вядзе да мэты спроба **1.Кe2+?**, прапанаваная некаторымі чытачамі.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**

**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Намеснік галоўнага рэдактара**
**Марыя Станіславаўна Эйсмант**



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 22.07.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 120 экз. Заказ № 2287.

9 772071 964000 19057